ГАЗЕТА З БЕЛАРУСІ

# ГОЛАС РАДЗІМЫ

ВЫДАЕЦЦА З 1955 ГОДА ● ● NO.15 (3135) ● ● ЧАЦВЕР, 23 красавіка, 2009

ШТОТЫДНЁВІК “ГОЛАС РАДЗІМЫ” МОЖНА ЧЫТАЦЬ У ІНТЭРНЭЦЕ: WWW.GOLAS.BY



**Зямля і неба Льва Талстога**

Унікальныя фотаздымкі сусветна вядомага класіка можна пабачыць на выставе ў музеі Стар. 2



**Знічкі Айчыны** Стар. 3



**Казкі ад Яўгена Кузьміча**

Мінскі аўтаслесар нечакана засведчыў пра ўласны талент казачніка Стар. 4

# Еўрапейскі след,

## альбо Аб тым, што цікавыя для Беларусі каштоўнасці ўсё часцей “усплываюць” за мяжой

**У пачатку красавіка невядомы дагэтуль ліст Адама Міцкевіча выстаўляўся на аўкцыёне ў Кракаве. Нягледзячы на тое, што аўтограф пісьменніка на французскай мове, а сам паэт лічыцца польскім класікам, усё ж ён — ураджэнец Беларусі. І гэта змушае пільней прыглядзецца да таргоў на еўрапейскіх рынках антыкварыяту.**

Віктар Корбут

Дарэчы, пакупнік “на Міцкевіча” знайшоўся адразу. Праўда, прозвішча свайго называць не стаў. Вядома толькі, што жыве ён на паўночным усходзе Польшчы, не надта далёка ад Беларусі. Першапачатковы кошт гістарычнага помніка складаў у пераліку на беларускія рублі 17 мільёнаў, але ў выніку таргоў павялічыўся ў пяць разоў. На шчасце, перад “знікненнем” пісьма ў сховішчы новага ўладальніка былі апублікаваны яго змест і выява. Адрасавана карэспандэнцыя, датаваная некаторымі спецыялістамі лістападам-снежнем 1842 года, да гісторыка Жуля Мішле, з якім вялікі Адам разам працаваў у парыжскім Калеж дэ Франс, выкладаючы там славянскія мовы і літаратуры. У сваім пасланні паэт шкадуе, што не можа вярнуцца да педагагічнай дзейнасці ў каледжы, бо доктар прапісаў яму яшчэ дзесяць дзён быць у ложку.

Аўтографы Міцкевіча сёння ў асноўным захоўваюцца ў дзяржаўных бібліятэках і архівах Польшчы. У Беларусі рукапісаў пісьменніка няма. На жаль, няма на радзіме і многіх іншых рарытэтаў, якія маюць беларускае паходжанне.



Манета ў гонар А. Міцкевіча. 1998.

ГЕОРГІЙ ШАБЛЮК

Так, летась у Варшаве на аўкцыёне “Лямус” была прададзена гравюра 1568 года з краявідам Гродна. Рэдкая выява, арыгіналаў якой ні ў Гродне, ні ў Мінску няма, была набыта Нацыянальнай бібліятэкай Польшчы за 44 тысячы долараў. Паводле неафіцыйнай інфармацыі, адзін беларускі бізнесмен меў намер купіць твор мастацтва і перадаць яго ў дар Радзіме, але таму спадару проста не хапіла грошай.

Яшчэ раней, у красавіку 2007 года, у Варшаве на інтэрнэт-аўкцыёне allegro.pl быў прададзены фрагмент вядомага метэарыта “Брагін”. Гэта даволі рэдкі від метэарыта, аскепкі якога з пачатку XIX стагоддзя знаходзілі ў ваколіцах Брагіна, што на Гомельшчыне. Вядомы ўсяго 13 экземпляраў касмічнага каменя, апошні з іх знойдзены ў 1968 годзе. Але як унікальная рэч трапіла за мяжу — пытанне, на якое не можа даць адказу пакуль ніхто са спецыялістаў. Вядома толькі, што ў час Другой сусветнай вайны нешта маглі вывезці з тэрыторыі Беларусі нямецкія акупанты. ➔ Стар. 2

**ВЕСТКІ**

## Ёсць інтарэс — будзе і вынік

Рыгор Няфёдаў

**Прадстаўнікі дзелавых колаў Паморскага ваяводства Польшчы выказалі гадоўнасць да супрацоўніцтва з беларускімі прадпрыемствамі-экспарцёрамі**

Намер наладзіць актыўнае ўзаемадзеянне польскія бізнесмены пацвердзілі падчас сустрэчы з генеральным консулам Беларусі ў Гданьску Русланам Есіным. Прадпрымальнікаў прывабілі выгадныя ўмовы для ўкладання капіталу, якія створаны замежным інвестарам у Беларусі. Прадстаўнікі дзелавых колаў Паморскага ваяводства цікавіліся беларускімі таварамі з сертыфікатамі ЕС, якія могуць быць запатрабаваны ў тым ліку і на польскім рынку. Сярод гэтых тавараў грузавыя аўтамабілі і аўтобусы, тавары народнага побыту, прадукцыя аграпрамысловага комплексу.

Дарэчы, прадпрымальнікі Паморскага ваяводства ўжо рэалізуюць некалькі пэўных інвестыцыйных праектаў у Віцебскай вобласці. Як лічыць Руслан Есін, супрацоўніцтва рэгіянальных беларускіх уладаў і польскіх бізнесменаў з'яўляецца добрым прыкладам. Тым больш, што перад правядзеннем у чэрвені Нацыянальнай выставы Беларусі ў Варшаве важна, каб польскія бізнесмены мелі дакладнае ўяўленне пра беларускія тавары, як і пра інвестыцыйныя магчымасці ў краіне-суседцы.

# Імя Сімона Балівара

## У Мінску пачаў працаваць Лацінаамерыканскі культурны цэнтр

Адам Мальдзіс

Балівія, Баліварыянская Рэспубліка Венесуэла, Лацінаамерыканскі культурны цэнтр імя Сімона Балівара ў Мінску… Між тым не кожны чытач нашай газеты добра ведае, чаму далёкія краіны і міжнародная культурная ўстанова ў нашай сталіцы маюць гэтае імя. Таму прыгадаем асноўныя факты жыцця і дзейнасці аднаго з кіраўнікоў вызваленчай барацьбы лацінаамерыканскіх народаў супраць панавання іспанскіх канкістадораў.

Сімон Балівар нарадзіўся 24 ліпеня 1783 года ў Каракасе, цяперашняй сталіцы Венесуэлы. Атрымаў добрую адукацыю ў Еўропе, дзе яму, дарэчы, сталі вядомы імя і дзейнасць ураджэнца Брэстчыны Тадэвуша Касцюшкі, які змагаўся за вызваленне не толькі свайго народа, але і народа ЗША. Добра было б ведаць, наколькі славянскі прыклад уздзейнічаў на Сімона Балівара, калі ён у 1810 годзе актыўна ўключыўся ў барацьбу супраць каланіяльнай улады ў Венесуэле, ды гэта ўжо тэма спецыяльнага даследавання. Адзначу, што ў 1819 годзе армія пад кіраўніцтвам Балівара вызваліла Новую Гранаду (цяперашнюю Калумбію), а ён сам стаў прэзідэнтам федэрацыі Вялікая Калумбія, куды ўвайшлі Венесуэла, Новая Гранада і крыху пазней правінцыі Кіта (сённяшні Эквадор) і Верхняе Перу (апошнюю ў гонар Балівара назвалі Балівіяй). Памёр Балівар у 1830 годзе, што адгукнулася рэхам у віленскім і пецярбургскім друку.

І вось імя Сімона Балівара нададзена Лацінаамерыканскаму культурнаму цэнтру ў Мінску, які быў адкрыты 13 красавіка па вул. Пуліхава, 31. Урачыстую цырымонію распачаў Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Баліварыянскай Рэспублікі Венесуэла ў Рэспубліцы Беларусь Амерыка Дыяс Нуньес. Ён падкрэсліў, што асноўная мэта цэнтра — папулярызацыя не толькі венесуэльскай, але і ўсёй лацінаамерыканскай культуры. Паслы лацінаамерыканскіх краін, якія акрэдытаваны ў Маскве і Мінску, у адказ на накіраваныя ім запрашэнні выказалі зацікаўленасць і згоду ўдзельнічаць у рабоце цэнтра. А гэта — і арганізацыя мастацкіх выстаў, і запрашэнні музычных калектываў, і знаёмства з мастацкай літаратурай. Прэзентацыяй цэнтра пачаліся ў Беларусі Дні культуры Баліварыянскай Рэспублікі Венесуэла. ➔ Стар. 2

# Імя Сімона Балівара

(Заканчэнне. Пачатак на стар. 1)

На цырымоніі адкрыцця выступілі таксама намеснік міністра культуры Рэспублікі Беларусь Віктар Кураш, Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Куба ў Рэспубліцы Беларусь Амар Сянон Медына Кінтэра. А потым адбыўся канцэрт мастацкай самадзейнасці, у якім прагучалі творы беларускіх і венесуэльскіх кампазітараў, народныя песні.

У заключэнне ўдзельнікі ўрачыстай цырымоніі адкрыцця цэнтра агледзелі яго памяшканне, калідоры, упрыгожаныя лацінаамерыканскімі плакатамі, бібліятэчны пакой з калекцыямі кніг, прысвечаных Балівару, Чэ Гевара, Фідэлю Кастра, Уга Чавесу, іншым дзеячам Лацінскай Амерыкі. І мне ўдвайне прыемна было бачыць гэтыя экспанаты: яны атрыманы, прывезены з Гомеля пры пасрэдніцтве рэдакцыі газеты "Голас Радзімы" і таварыства "Беларусь-Венесуэла". Сабралі ж гэтыя лацінаамерыканскія багацці гомельскія калекцыянеры і культуролагі Аляксандр Снітко і Алесь Сімакоў.




Партрэт Сімона Балівара

Ад рэдакцыі газеты "Голас Радзімы" новаму цэнтру былі перададзены звесткі пра беларускую дыяспару ў Венесуэле, якая была арганізацыйна афармлена ў 1949 годзе. Ад гэтай арганізацыі павінны былі застацца дакументы і нават вершаваныя творы. Супрацоўнікі цэнтра абяцалі, што здзейсняць пошукі архіўных матэрыялаў.

# Зямля і неба Льва Талстога

## Унікальныя фотаздымкі сусветна вядомага класіка можна пабачыць у Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры

Іван Іванаў

Дзіўнае адчуванне… Як быццам на аматарскіх і прафесійных фотаздымках, па-талстоўску шырока і разнастайна прадстаўленых у экспазіцыі ў Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры, бачыш даўно знаёмыя твары… Можа, таму, што вобразы генія, а таксама яговых родных і блізкіх кожны з нас помніць яшчэ са школьных ці студэнцкіх гадоў? Я ж з немалым хваляваннем пабачыў на адным з даўніх фотаздымкаў і даволі знаёмы мне, прытым вельмі сімвалічны яснапалянскі сюжэт.

Зіма. Невялічкі грудок снегу з яловымі лапкамі на ім, каля якога — пажылая жанчына. І толькі надпіс пад здымкам, яшчэ дарэвалюцыйным, гаворыць: гэта і ёсць Соф'я Андрэўна на магіле мужа. Помніцца, калі на пачатку сакавіка 1984-га журналісцкія дарогі прывялі мяне ў Тулу, а потым і ў Ясную Паляну, я быў пры той магілцы. Такой жа непрыкметнай сярод дрэў — без анiякага надмагільнага помніка, без агароджы… І толькі ідучы па клапатліва прачышчанай у снезе сцежцы і можна было знайсці месца апошняга спачыну генія. Дарэчы, уладар думаў мільёнаў пажадаў, каб яговая магіла заўсёды была менавіта такою сціплай і непрыкметнай. Хутка ўжо сто гадоў, як спаўняецца той запавет. Бо, як вядома, менавіта ў лістападзе 1910 года вялікі натоўп народу, стаўшы на калені — ёсць і такі здымак у экспазіцыі — праводзіў свайго яснапалянскага заступніка ў лепшы свет.




На сустрэчу з Львом Мікалаевічам у музей прыходзяць сотні прыхільнікаў яго таленту

На адкрыцці выставы гаварылася, што ў Льва Талстога было нямала адрасатаў і з тэрыторыі цяперашняй Беларусі — пісалі яму як прадстаўнікі інтэлігенцыі, так і простыя сяляне. Прафесар Вячаслаў Рагойша нагадаў вобразныя словы аднаго з украінскіх калег, што Леў Мікалаевіч і сёння, нібы вясёлка, дугападобна злучае паміж сабою людзей розных краін і народаў. А дырэктар Дзяржаўнага музея Льва Талстога ў Маскве Віталь Рэмізаў, які шмат паездзіў па зямлі, пацвердзіў: дзе ні загаворыш пра Льва Мікалаевіча — усюды знойдзеш сабе добрых сяброў.

Льва Мікалаевіча фатаграфавалі шмат. На выставе цікава разглядваць здымкі, на якіх ён — у коле родных і блізкіх, ці гуляе ў гарадкі ў 1909 годзе, ці на тэнісе з дочкамі Аляксандрай і Марыяй. А тут граф стаіць ля свайго яснапалянскага дома. Упэўнена, моцна трымае касу: "З селянінам Уласавым на касьбе ў 1890 г.". Ён жа сярод народа на кірмашы, за разборам пошты, гуляе ў шахматы, з сялянскімі дзецьмі ля ганку вясковай школы. І з імі ж паўз высокія, у пояс травы ідзе купацца на рэчку…

Пра тое, што беларуская культура ўвесь час падпітваецца ад духоўных крыніц Льва Талстога і што тут маюць добры рэзананс яго гуманістычныя ідэі, сведчыць літаратурна-дакументальная частка выставы. На ёй сабраны выдадзеныя ў Беларусі кнігі з творамі Л.Талстога і тыя, якія прысвечаны яго кантактам з нашымі суайчыннікамі. Выстаўлены тэатральныя афішы з Брэста, Гродна, Мінска — у розныя часы ў тэатрах Беларусі ставіліся "Анна Карэніна", "Жывы труп", "Улада цемры" і іншыя спектаклі.

Выстава "Жыццё Л.М.Талстога ў фотаздымках сучаснікаў" — міжнародны праект, плён працы многіх людзей. Яна падрыхтавана на аснове матэрыялаў з фондаў Дзяржаўнага музея Льва Талстога ў Маскве. Працавалі над экспазіцыяй і Віталь Рэмізаў, і мастак Дзмітрый Нясмелаў, і супрацоўнікі Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры сумесна з навукоўцамі. Выкарыстаны таксама матэрыялы Цэнтральнай навуковай бібліятэкай імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі і Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва.

# Еўрапейскі след,

## альбо Аб тым, што цікавыя для Беларусі каштоўнасці ўсё часцей "усплываюць" за мяжой

(Заканчэнне. Пачатак на стар. 1)

Дарэчы, многія рарытэты ў Еўропе выплываюць на аўкцыёнах як вынікі ваенных рабункаў. Дагэтуль застаецца загадкай, напрыклад, з'яўленне на таргах кніг вядомага друкара эпохі Рэнесансу Францыска Скарыны. У снежні 1996 года на лонданскім аўкцыёне "Крыстыс" беларусы, якія жывуць у Вялікабрытаніі, набылі для тамтэйшай Беларускай бібліятэкі імя Францыска Скарыны пяць кніг "Бібліі рускай", выдадзеных асветнікам у Празе напачатку XVI стагоддзя. Гэта стала магчымым дзякуючы ініцыятыве дырэктара бібліятэкі айца Аляксандра Надсана. Ён жа ў 1975 годзе на таргах у Монтэ-Карла выкупіў з прыватных рук фрагмент біблейскай "Кнігі царстваў", выдадзенай Скарынам. Тым часам у Мінску няма пакуль ніводнага поўнага камплекта "друкаў" беларускага Гутэнберга.

Пакуль Беларусь толькі пачынае збіраць з усяго свету свае скарбы. Таму пытанне пра стварэнне дзяржаўнага фінансавага рэзерву, з якога можна было б выкупляць "свае" рарытэты за мяжой — справа будучыні.

Нядаўна пры Савеце Міністраў была створана камісія па выяўленні, вяртанні і сумесным выкарыстанні і ўвядзенні ў навуковы і культурны ўжытак нацыянальных культурных каштоўнасцяў, што апынуліся за межамі краіны. Узначалілі камісію старшыня Сяргей Алейнік і сустаршыня Уладзімір Грыдзюшка. У склад аўтарытэтнай рады ўвайшлі 16 навукоўцаў, у тым ліку прадстаўнікі Нацыянальнай акадэміі навук, Нацыянальнага архіва, Міністэрства юстыцыі.

Найбольш актуальная сёння задача для Беларусі — пошук і вяртанне слуцкіх паясоў, некаторыя з якіх захоўваюцца ў Расіі, Польшчы. Таксама ў сувязі з рэстаўрацыяй Нясвіжскага палацава-паркавага комплексу Радзівілаў паўстала асабліва востра пытанне аздаблення аднаўленых пакояў арыгінальнай мэбляй, іншымі прадметамі дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Цалкам магчыма, некаторыя рэчы з радзівілаўскага палаца "выплывуць" за мяжой. Прынамсі, супрацоўнікі Нацыянальнага гісторыка-культурнага запаведніка "Нясвіж" ужо цяпер распаўсюдзілі па антыкварных крамах унутры краіны фатаграфіі і апісанні інтэр'ераў магнацкай рэзідэнцыі, каб натрапіць на след прадметаў, што калісьці ўпрыгожвалі велічныя залы.



Раней невядомы ліст А. Міцкевіча з кракаўскага аўкцыёна

Пошукі страчанага працягваюцца…

# Узрост — не перашкода

**Беларускае таварыства Чырвонага Крыжа пачынае рэалізацыю новага праекта па падтрымцы сталых людзей**

Праект будзе ажыццяўляцца ва ўсіх рэгіёнах Беларусі пры ўдзеле Нарвежскага Чырвонага Крыжа. Мяркуецца, што да аказання дапамогі грамадзянам, якія апынуліся ў няпростым жыццёвым становішчы, актыўна далучацца валанцёры.

Прадугледжваецца, што больш чатырохсот чалавек атрымаюць падтрымку ў групах самадапамогі ў супольнасцях сталых людзей. Акрамя таго, плануецца распрацаваць і рэалізаваць дваццаць валанцёрскіх міні-праектаў, у выніку чаго дапамогу атрымаюць больш васьмі тысяч чалавек.

Як адзначае генеральны сакратар Беларускага Чырвонага Крыжа Віктар Калбанаў, людзям пенсійнага ўзросту вельмі важна стварыць умовы для рэалізацыі свайго патэнцыялу.

# Знічкі Айчыны

Газета расказвала ўжо, што ў Мінску, у Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі, адбылася святочная вечарына, якая мае самае непасрэднае дачыненне да гісторыі слаўнага Полацка. Сабраліся разам палачане, вызначыўшы сваю сустрэчу як пачатак дзейнасці зямляцтва ўраджэнцаў Полацка і Полацкага краю. Міністр культуры Уладзімір Матвейчук, сённяшні мэр горада на Дзвіне Уладзімір Тачыла, пісьменнікі Алесь Савіцкі, Навум Гальпяровіч, Уладзімір Арлоў…У кожнага з іх — свае асабістыя стасункі са слаўным горадам, з яго рэчаіснасцю і яго промнямі культуры і гісторыі, што асвятляюць і Віцебшчыну, і ўсю Беларусь, і ўвесь бязмежны свет…


Полацк. Агульны выгляд горада. Канец XIX ст.


Полацк. Помнік героям вайны 1812 г.


Полацк. Вакзал. Пачатак XX ст.


Свята-Крыжаўзвіжанская царква. Полацк . XX ст.


Свята-Ефрасіннеўскі храм. Пачатак XX ст..


Полацк. Сафійскі сабор. Пачатак XX ст..


Полацк. Млын на рацэ Палаце. Пачатак XX ст.

Алесь Карлюкевіч

Мажліва, новая грамадская ініцыятыва стане рухавіком і працы калекцыянера Уладзіміра Ліхадзедава, які збірае свой, філакартычны партрэт роднага горада. Тым болей, што істотны падмурак ужо закладзены. На гісторыка-філалагічным факультэце Полацкага дзяржаўнага універсітэта працуе пастаянна дзеючая экспазіцыя рэпрадукцый старых паштовак, прысвечаных роднаму гораду, яго храмам веры, Полацкаму кадэцкаму корпусу, гарадскім вуліцам... А я, прызнацца, як уважліва гляджу зборы Уладзіміра Аляксеевіча (а толькі пра Полацк старых паштовак у яго калекцыі — сотні!), усё чакаю, калі ж на паліцы кнігарняў і бібліятэк прыйдзе адметны альбом "У пошуках страчанага. Полацк".

Мо поруч з выявамі багатага на гісторыю, на многія падзеі горада з'явіцца на старонках яго альбома і падрабязны расповед пра гараджан розных пакаленняў. Давайце паспрабуем згадаць імёны хаця б некаторых. Асабліва месца ў памяці пра Полацк займае настаўніцкая семінарыя. Пачала яна сваю работу ў 1872 годзе. У 1912 годзе навучальнай установе было нададзена імя героя Айчыннай вайны 1812 года генерала Я. Кульнева. З пачаткам Першай сусветнай вайны семінарыю эвакуіравалі ў Расію — у горад Вязнікі Уладзімірскай губерні. З 1918 года семінарыя вядома як педагагічны тэхнікум. Тарас Хадкевіч, які вучыўся ў ім у 1927–1929 гадах, пакінуў такія ўспаміны пра горад: "Полацк — стары, але невялікі па тым часе горад, здаўся мне казачным. Брукаваныя вуліцы, каменныя дамы, гмахі колішняга кадэцкага корпуса, высока ўзнятыя купалы і шпілі, што трапляліся мне на вочы, — выглядалі інакшымі, чым у нас на вёсцы — нібыта яны былі зусім з інакшага свету. Потым у жыцці я бачыў шмат гарадоў — большых і прыгажэйшых за Полацк, — але такога ўражання яны не пакідалі".

Ды вернемся ў часы крыху ранейшыя, калі тэхнікум яшчэ быў семінарыяй… Сярод першых навучэнцаў яе — краязнавец, фалькларыст і пісьменнік Іван Данілавіч Гарбачэўскі (1860–1914). Яркая, шматаблічная асоба, чалавек высокай эрудыцыі, ён паспеў за непрацяглае жыццё змяніць нямала заняткаў. Быў выкладчыкам народнага вучылішча, працаваў у газеце "Витебские губернские ведомости». Але найгалоўнейшым клопатам заставалася вывучэнне фальклору, побыту беларусаў, гісторыі Віцебшчыны, нашай Айчыны. Цікавай краязнаўчай крыніцай і цяпер застаецца праца Івана Данілавіча "Лепельскі павет Віцебскай губерніі". Пра палешукоў Гарбачэўскі напісаў працу "Старына старадаўняя". Ён аўтар і мастацкіх твораў, у тым ліку — аповесці з сімвалічнай назвай "Не дайшоў да роднай хаты".

Крыху пазней вучыўся ў семінарыі гісторык і літаратуразнавец Даніла Мінавіч Васілеўскі (1889–1963). Пачатак яго творчай, публіцыстычнай дзейнасці звязаны з газетай "Наша Ніва", у якой Васілеўскі пачаў друкавацца ў 1914 годзе. У 1926 годзе было надрукавана даследаванне Данілы Мінавіча "Сталецце краязнаўчай працы на Беларусі". Сярод выпускнікоў Полацкай семінарыі — і Фларыян Данатавіч Манцэвіч (1890–1941), педагог, грамадскі дзеяч і фалькларыст. У 1941 годзе яго арыштавалі гітлераўцы і пасля катаванняў расстралялі.

Полацк — горад, які ва ўсе вякі славіўся сваімі навучальнымі ўстановамі. Менавіта гэта першнаперш і прыцягвала сюды самых розных людзей, якія пасля ўзбагачалі навуку ды іншыя галіны чалавечай дзейнасці ва ўсім, лічы, свеце. Узяць, прыкладам, славуты Полацкі кадэцкі корпус, нямала выяў якога захавалася і на старых паштоўках. Адна сям'я Кайгародавых чаго вартая!.. Нічыпар Іванавіч — генерал-маёр, на службе ў кадэцкім корпусе — з 1836 па 1865 год. Сыны: Міхаіл Нічыпаравіч — генерал ад інфантэрыі, Нестар Нічыпаравіч — генерал-лейтэнант, быў камендантам Выбаргскай крэпасці, Дзмітрый Нічыпаравіч — вучоны-прыродазнавец, пісьменнік-натураліст (яго кнігі "Тутаркі пра рускі лес", "З царства птушак", "З зялёнага царства" вытрымалі многія і многія выданні).

У 1874 годзе Полацкі кадэцкі корпус закончыў ваенны дзеяч, генерал-лейтэнант Раман Ісідаравіч Кандраценка. У руска-японскую вайну ён камандаваў сухапутным фронтам крэпасці Порт-Артур. Загінуў пры артабстрэле, пахаваны ў Пецярбургу ў Аляксандра-Неўскай лаўры. 20 мая 1910 года ў кадэцкім корпусе ў Аляксандраўскай зале ўстанавілі скульптурны бюст Р. Кандраценкі. Ушаноўваюць памяць пра военачальніка і цяпер. Ёсць у Полацку вуліца, названая ў яго гонар. Некалькі гадоў запар Уладзімір Ліхадзедаў ініцыяваў на гісторыка-філалагічным факультэце Полацкага універсітэта (а ён размешчаны якраз у старым будынку Кадэцкага корпуса) дні памяці. Збіраліся навукоўцы, літаратары, студэнты, прадстаўнікі мясцовай улады. Добра было б, каб традыцыя праводзіць у снежні Дзень горада атрымала сваё развіццё. І мо тая ж грамадская ініцыятыва па аб'яднанні палачан Беларусі (а мо і ўсяго свету?!.) прыйшла са сваімі, несумненна, вартымі ўвагі, праектамі ў родны Полацк. Сёння там хапае клопатаў — і па фарміраванні гісторыка-архітэктурнага ландшафту горада, і па ўмацаванні музейнай прасторы. Горад-турыст, горад-асветнік, Полацк з'яўляецца эпіцэнтрам прыцягнення ўвагі цікаўных да гісторыі жыхароў самых розных краін. Сюды едуць журналісты і вернікі розных канфесій, вучоныя і моладзь — усе, хто нераўнадушны да новых адкрыццяў…І нам толькі застаецца сцвярджаць багацце гістарычных, асветніцкіх памятак роднага горада. У тым ліку — і праз веданне лёсаў знакамітых суайчыннікаў.

© В поисках утраченного. Паштоўкі з калекцыі Уладзіміра Ліхадзедава

# Вяртанне родавай сядзібы

Дзіяна Курыла

**Латвійскі інвестар мае намер адрадзіць сядзібу Свяцкіх у Сенненскім раёне і стварыць там культурна-дзелавы цэнтр**

У вёсцы Беліца, што на Віцебшчыне, у канцы XIX стагоддзя знаходзілася родавае памесце Свяцкіх — багатых і прадпрымальных шляхціцаў. Менавіта з іх імем звязана адна з легендаў пра скарб Напалеона. Нібы адзін са Свяцкіх, Карл, вёў пошукі золата, каштоўнасцяў, багатага начыння агульнай вагой амаль 800 пудоў, якія французскі імператар, адступаючы з Масквы, утапіў у Стаячым або, як яго яшчэ завуць, Семлеўскім возеры. Паводле падання, пошукі памешчыка аказаліся паспяховымі, а пацверджаннем таму служыла яго прыгожая сядзіба ў Беліцы. На жаль, да нашых дзён дайшлі толькі рэшткі гаспадарскага дома з васьмівугольнай вежай і зарослы, часткова высечаны парк, на ўзнаўленне якіх неабходны значныя сродкі.



Паводле адной з легендаў, гэтыя муры ўзводзіліся на золата са скарбаў Напалеона

Інвестара з Латвіі рэшткі сядзібы зацікавілі як аб'ект для стварэння культурна-дзелавога цэнтра з гасцініцай, кафэ, саунай, паляўнічым домікам. Пры гэтым шляхецкае гняздо будзе адноўлена з максімальным набліжэннем да арыгіналу. Зусім хутка пачнуцца вышуковыя работы, а вучоныя Полацкага дзяржаўнага універсітэта прыступяць да ацэнкі стану частак дома, якія захаваліся, для вызначэння аб'ёму неабходных работ і выдаткаў на аднаўленне сядзібы.

## Таямніцы кніжных рарытэтаў

**Выстава "Паэзія XVIII — пачатку XX стагоддзя" адкрылася ў Палацы Румянцавых і Паскевічаў у Гомелі**

На выставе прадстаўлены пяцьдзесят старадаўніх кніг са збору аддзела рэдкай кнігі Гомельскай абласной бібліятэкі. Усе яны адносяцца да замежнага і рускага фондаў фамільнай бібліятэкі князёў Паскевічаў і калекцыі рэдкіх выданняў, якія адлюстроўваюць асноўныя вехі ў развіцці рускай і замежнай паэзіі XVIII–XX ст. Больш паловы кніг з'яўляюцца прыжыццёвымі выданнямі такіх майстроў слова як Эдмон Растан, аўтар знакамітай п'есы "Сірано дэ Бержэрак", Іван Крылоў, Васілій Жукоўскі, Гаўрыіл Дзяржавін і іншых вядомых класікаў.



Археолагі з Магілёва сістэматызуюць нядаўнія знаходкі

# Напамін з мінулага

Сяргей Кулягін

**Каля тысячы артэфактаў знайшлі студэнты і выкладчыкі гістарычнага факультэта Магілёўскага дзяржаўнага універсітэта падчас раскопак у цэнтры горада**

У ліку знаходак такія унікальныя рэчы, упершыню знойдзеныя на тэрыторыі Беларусі практычна ў ідэальным стане, як скураныя ножны мяча з цісненнем, штылет у ножнах з драўлянай ручкай, скураны рыцарскі пояс, скураная плётка. Артэфакты датуюцца другой паловай XVI – пачаткам XVII стагоддзяў. З-пад зямлі таксама вынялі мноства ўзораў керамікі, элементаў скуранога адзення, фрагменты зброі і нават звычайныя лясныя арэхі, якія амаль 300 гадоў праляжалі ў зямлі. Імі любілі паласавацца гараджане.

Гістарычны скарб адшукалі ў старажытным цэнтры Магілёва ў катлаване адной з новабудоўляў. Будаўнічыя працы былі прыпынены і праведзены належны археалагічны агляд. Вывезены культурны пласт плануецца да канца даследаваць. Цяпер прымаюцца неабходныя меры, каб выключыць страту унікальных артэфактаў. Усё знаходкі пасля адпаведнай апрацоўкі папоўняць фонды Музея гісторыі Магілёва.



Гэтым скураным рэчам больш за 400 гадоў

ЗАХАПЛЕННІ

# Казкі ад Яўгена Кузьміча

## Мінскі аўтаслесар нечакана засведчыў пра ўласцівы яму талент казачніка

Іван Ждановіч

Рабочы стол у казачніка — невялікі слясарны верстак, зроблены акурат пад высокі рост гаспадара. Ды і працу "карбюратаршчык Жэня", як называюць майстра між сабою аўтааматары, у асноўным стоячы. Мяркуючы па нумарах машын, прыпаркаваных побач з яго сціплым "сервісам", паслугамі Яўгена Кузьміча карыстаюцца не толькі мінчане. "Едуць з усёй Беларусі, бываюць кліенты і з Расіі, Польшчы, краін Прыбалтыкі…", — пацвярджае мае назіранні дабрадушны барадач. З усёй неабсяжнасці "аўтахвароб" ён, папрацаваўшы ў розных майстэрнях, урэшце абраў карбюратарныя. Іх і лечыць амаль чвэрць стагоддзя. Пра такіх кажуць: майстар — залатыя рукі.

Зрэшты, не буду адбіраць хлеб у калег са спецыялізаваных выданняў, расказваючы, як на слых па ўсхліпу ці чмыху матора Жэня ставіць папярэдні карбюратарны дыягназ. Важныя, аднак, яго развагі пра першапрычыны. "Збой у сістэме подачы гаручага пачынаецца звычайна з мале-е-нькай парушынкі, якая ў яе трапляе, — усміхаецца ў бараду майстар. — А мы ж так часта менавіта дробязі не заўважаем! Забываемся, што само па сабе нічога не здараецца: усяму ёсць прычына, хай сабе і нябачная".

Дзесяць казачных гісторый Яўгена Кузьміча ўжо выдадзена кнігай "Казкі пра каханне", некаторыя друкаваліся ў перыёдыцы. У многіх з ягоных казак пры дапамозе вясёлага чарадзейства, нібы пад павелічальным шклом, якраз становіцца бачным нябачнае. Скажам, зайздрасць. У казцы "Як выглядае зайздрасць" яна з'яўляецца дзяўчынцы ў выглядзе пачварнай жабы — псуе людзям настрой і перашкаджае радавацца жыццю. Урэшце, калі гераіня вырашыла пазбавіцца ад агіднага суседства, жаба і лопнула, як мыльны пухір. Каб ацаніць маміны клопаты, смак прыгатаванай ёю ежы галоднаму Віталіку з казкі "Самая смаката" давялося патрапіць у свет бяздушных робатаў, якія "непаслухмяным дзецям увогуле ніколі і нічога не выдаюць". А ў казцы "Не рабі балюча іншым" злосны задзіра і забіяка Цімка воляю казачніка… абрастае шэрсцю як кацяня, якое ён пакрыўдзіў, у яго яшчэ як расплата за нядобрыя ўчынкі з'яўляюцца аслíныя вушы, свінячы пятачок, хвост, рогі ў выглядзе зламанай ім галінкі дрэва… І хлопчык-монстр у літаральным сэнсе на сабе востра адчувае, як баліць іншым, перш чым разумее, што "сапраўдны мужчына ніколі не пакрыўдзіць таго, хто слабейшы"…



У казачніка — добрая ўсмешка

А ўсур'ёз "казачнай справай" Жэня стаў займацца пасля таго, як у 86-м годзе атрымаў немалую дозу радыяцыі і з цяжкім дыягназам патрапіў у бальніцу. Як вядома, пасля аварыі на Чарнобыльскай АЭС тысячы людзей працавалі ў забруджаных рэгіёнах — займаліся эвакуацыяй жыхароў, праводзілі дэзактывацыю населеных пунктаў. У ліку ліквідатараў, як іх цяпер называюць, аказаўся і сяржант запаса, санінструктар-дазіметрыст з Мінска Яўген Кузьміч. "Запатрабаваўся вопыт, які я атрымаў падчас службы ў Групе савецкіх войскаў у Германіі, — згадвае той час Жэня. — Дазіметрысты былі ў першых шэрагах ліквідатараў. Я працаваў ў Брагінскім раёне два тыдні адразу пасля аварыі, жылі ў школе вёскі Вуглы, і 15 мая вярнуўся ў Мінск. Мы, вядома ж, ведалі, што гэта вельмі небяспечна. Але ж паводле сабраных намі звестак аператыўна складваліся карты забруджанасці мясцовасцяў і ўрэшце стаў бачны ўвесь маштаб катастрофы…"

"Ты ў лавушцы. Адсюль няма выхаду, аднак ты не павінна пераставаць яго шукаць…" — такую параду дае казачнік адной з гераінь у казцы "Зачараваны рыцар". Тую небяспеку, якая парушае гармонію жыцця, раз'ядае свядомасць і мараль людзей, Жэня спрабуе разгледзець і сёння. І пры дапамозе казачных гісторый пакзаць няпросты "шлях да святла" чытачам рознага ўзросту. Дарэчы, дапамагаюць яму ў творчасці жонка Валянціна і дачка Марына.

Заснавальнік: Рэдакцыя газеты «СБ»
Рэдактар: Віктар Харкоў
Адрас: пр. Незалежнасці, 44, Мінск, 220005
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 61
Тэлефон рэдакцыі: +375 17 288—12—80; факс: +375 17 288—12—80
Бюро па рэкламе: Тэл. +375 17 290—60—11
E-mail: golas_radzimy@tut.by
Газета надрукавана ў Рэспубліканскім унітарным прадпрыемстве «Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
Аб'ём выдання: 1 друк. арк.
Тыраж: 2000
Заказ: 481